Год II. Сакавік № 3 (13).

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі**: Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год II. | Вільня, — Сакавік 1930 г. | № 3 (13). |
|---|---|---|

## У 12-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

(25.III-1918 — 25.III-1930)

У сяньнешні дзень ня будзем мы падрабязна разьбіраць гістарычных фактаў, датычачых Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Аб гэтым гістарычным для Беларусі дні ўспомнім толькі збольшага і зробім хоць агульныя вывады.

Кожны бадай беларус знае, што калі ў Расеі рэвалюцыя зваліла царскі трон, паняволеныя ім народы стараліся стаць на свае ўласныя ногі. Поруч з іншымі народамі і беларускі народ пачаў тады арганізаваць сваю дзяржаву. Тварыліся беларускія вайсковыя, грамадзкія, культурныя і іншыя арганізацыі і ўстановы. Урэшце прадстаўнікі беларускага народу зьехаліся ў м-цы сьнежні 1917 году ў Менску на Вялікі Усебеларускі Кангрэс, які выявіў волю народу стварыць Беларусь Вольнай і Незалежнай. Кангрэс гэты аднак быў разагнаны маскоўскімі камуністымі і толькі пасьпеў выбраць Раду Беларускай Рэспублікі, якая 25.III.1918 г. абвясьціла Незалежнасьць Беларусі.

Ня зьдзейсьнілася аднак гэтае так важнае абвешчаньне. Перавышаючая сілу беларускую сіла з Масквы і Варшавы, ваюючая за беларускія землі, захапіла іх і замацавала мірным дагаворам у Рызе ў 1921 годзе, дзелячы Беларусь на дзьве часьці.

І так, мы Беларусы знайшліся пад панаваньнем двух дзяржаў.

Беларуская моладзь, маючы перад сабой гісторыю-навуку змаганьня за вольнасьць нашых бацькоў і суседзяў, павінна добра навучыцца, як яна мае паступаць.

Перадусім трэба нам здаровага і сільнага духа, які мы знойдзем добра прыглездзіўшыся да жаданьняў, імкненьняў і болю беларускага народу. Ня можна прыслухоўвацца да падшэптаў нашых ворагаў, гнацца за часовым матэр'яльным падтрыманьнем, ані спадзявацца, што хтось дасьць нам долю і волю. Ня трэба так-жа, будучы самі бяздольнымі і бяссільнымі, ісьці на помач пралетар'яту ўсяго сьвету, паводле камуністычнай праграмы, бо гэтым і іншым не паможам і сябе больш згубім.

Трэба нам спадзявацца прадусім на свае ўласныя сілы.

У Дзень 12-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі мы беларуская моладзь павінны перад Богам і Народам сваім прысягнуць, што вясну сваю — маладое-жыцьцё, пасьвяцім для паправы лёсу беларускага народу так, як добры гаспадар час вясны заўсёды пасьвячае для паправы сваей гаспадаркі і што не адступім ад народнай сьвятой Ідэі незалежнасьці, не ар'ентуючыся ні на Маскву ні на Варшаву, а на свае ўласныя сілы, на народ свой беларускі.

*Я. Н.*

# Трымаймася родных назоваў.

У сваім імкненьні здэнацыяналізаваць беларускі народ—ворагі нашыя не перабіраюць у сродках і ўпорыста ідуць да сваіх мэтаў. Так, у апошні час, ды й раней, вядзецца ўпартае і сыстэматычнае заціраньне ўсяго, што сьведчыць аб беларускасьці нашага краю. Апрача дзіўнага загаду бяленьня нашых хатаў, ад чаго яны прынялі прыгожы колер мазгоў ініцыятараў, спатыкаем на кожным кроку перакручваньне нямілых польска-панскаму вуху назоваў беларускіх мясцовасьцяў. За прыкладамі няма чаго далёка залазіць — спаткае іх кожны ў сваей гміне аж за шмат. Дзеля гэтага і я ня буду іх прыводзіць, зьвярнуся толькі да ўсяго нашага грамадзянства і моладзі перадусім: трымайцеся, браткі, родных назоваў і толькі іх ужывайце ўва ўсякіх нагодах! Няхай чужацкія наватворы сьведчаць толькі аб вялікай ганьбе нашых ворагаў! Ч. Х.

# Аб нашай жаноцкай долі.

Як вясковая дзяўчына, хачу я ў гэтай першай сваей пісульцы троха пагутарыць аб нашай жаноцкай долі, тым болей, што дагэтуль ніхто нават і паўслова не напісаў аб жыцьці вясковай жанчыны. Дык вось нашае жаноцкае жыцьцё ў тысячу раз горшае, чымся мужчыны. Яшчэ поўбяды, калі вясковая жанчына не замужняя. За гэты час свайго жыцьня яна, можна сказаць, толькі і жыве-красуе. Толькі будучы дзяўчынай, яна можа болей-меней свабодна распараджацца сваім, калі не матэр'яльным, дык духовым жыцьцём. Толькі за гэты час свайго жыцьця, яна можа ў волю пасьмяяцца, пажартаваць, пасьпяваць, пагуляць ды й рожныя непамысныя выпадкі ў гаспадарцы ня гэтак балюча прыймае да сэрца. Але прыходзіць пара ісьці замуж і ўся яе асабістая духовая свабода канчаецца, астаюцца толькі голыя ўспаміны. Добра, калі мужык пападзе чэсны, сумленны і цьвярозы, а калі не — дык для жанчыны расьцілаецца поўны жыцьцёвых калючак шлях. На яе сьпіне ня толькі спаганяецца звычайная злосьць — гнеў мужыка, але ляжыць і ўся цяжкасьць штодзеннага, вясковага, гаротнага, няпрыгляднага жыцьця. Калі я зірну вокам па знаёмых мне мяйсцовасьцях сваей ваколіцы, дык усюды бачу адно гора, бяду, непасільную працу жанчыны. Для вясковай жанчыны няма супачынку, няма сьвята. Кожны дзень яна павінна ўстаць да дня, выпаліць у печы, накарміць сям'ю, падаіць кароў, даглядзець сьвіней і далей брацца таксама за рожную даволі дакучлівую хатнюю работу. А ўлетку, апрача гэтага, трэба яшчэ пасьпець і на поле з сярпом, ці на сенакос з граблямі. Надыйдзе восень, зіма — бярыся за кудзелю, глытай атрутны пыл, смакчы яе аж да самай вясны. Ня дзіва, што за работаю наша жанчына ня можа як сьлед паклапаціцца аб сваей асобе, абшыць і даглядзець сваіх дзяцей. Вось гэтакім парадкам праходзяць для вясковай жанчыны дні за днямі, тыдні за тыднямі, цэлыя месяцы, гады і ўсё жыцьцё. Як бачыце, акрамя работы, няма нічога радаснага, сьветлага ў жыцьці вясковай жанчыны. Сьвет культуры ня можа даляцець да яе і абагрэць сваімі цёплымі праменьнямі яе жыцьцё. Адна з прычын гэтага зьявішча, вялікая цемната і агулам няграматнасьць, дзякуючы чаму нашы жанчыны да кніг і газэт не пачуваюць міякай сымпатыі. Мне здаецца, што калі-б да нас вясковых жанчын, дзяўчат прышлі з кніжкаю, ці добрым словам — парадаю, дык гэтым самым дапамаглі-б нам стрэсьці з сябе тое ліхоцьце векавога сну, у якім мы дзяўчаты і жанчыны знаходзімся да сяньнешняга дня.

**Гэля Беларуска.**

# Родная мова ў Унівэрсытэце Сцяпана Батуры ў Вільні.

Пасьля таго, як у сьветлай і вялікай нашай мінуўшчыне шырока і далёка на сьвеце была чутна наша мова, прышоў на яе славу час занепаду. Чужая культура, пераважна польская, забрала ад нас цьвет нашай інтелігенцыі, арыстакрацыю. Вырακліся яны сваей бацькаўскай мовы і культуры беларускае. Асталася наша мова і традыцыя толькі сярод гушчаў сялянскім і так перахадзіла яна з пакаленьня ў пакаленьне. Сягоньня, калі народ наш ускалыхнуўся і прабудзіўся да новага жыцьця, мова, культура і традыцыя наша аджывае. Верны усяму, што роднае, беларускае, селянін — доўга павінен быў ждаць тэй хвіліны, калі ня толькі ён на нізох будзе гаварыць „па просту", але калі і на вярхох, інтелігенцыя будзе такжа карыстацца тэй самай мовай. І дачакаў свайго слаўны сын зямелькі роднай! Дня 15 лютага с. г. адбылася першая лекцыя беларускай мовы на У. С. Б. ў Вільні. Выкладаў, як і далей выкладае, др. Я. Станкевіч. Менш, праўда, нас абходзе, асоба лектара, нам толькі важны ёсьць факт, што наша мова ёсьць усюды і на нізе і ў вярхох. Вывад з гэтага ясны, што Беларусамі называюцца ня толькі, як выражаюцца польскія шовіністы, „хамы", але інтэлігенты і людзі навукі.

Першая гэта лекцыя была нейкай дзіўна-радаснай. Саля ледзь зьмясьціла слухачоў. Прышлі студэнты, студэнткі, прышла беларуская інтэлігенцыя, прышлі працаўнікі ўмысловыя, прышлі старэйшыя людзі, якія ўжо не адзін дзесятак гадоў працуюць на бацькаўскай мове, прышлі жанчыны, было нават адно 10-ці летняе дзіця. Прысутныя сьведчылі, што Беларусы жылі і жывуць, а дзіця было якбы сымбалічным задаткам, што Беларусы будуць жыць.

Напрасна тады вырадкі чалавецтва крычаць на ўвесь сьвет, што Беларусаў няма, напрасна нашай мове зачынаюць дзьверы ў сьвятыні Божыя, напрасна яе ня хочуць дапусьціць у школы! Напрасна!

Мы жылі раней і будзем жыць заўсёды; сілы варожыя нас не перамогуць!

**Я. Малецкі.**

---

# Крыху з нашай гісторыі

Чалавецтва звычайна дзеляць на расы: белую, чорную, чырвоную, жоўтую і маляйскую. *)

Народаў на зямлі было многа, але ў агульную гісто-

*) Сучасная навука налічае расаў значна больш.

рыю ўваходзяць толькі тыя, каторыя нават у глыбокай стара-даўнасьці стварылі свае дзяржавы і адзначыліся культурай і цывілізацыяй.

Аднак і народы, стварыўшыя свае дзяржавы і культуры, ня ўсе займаюць у гісторыі аднолькавае месца; так прык. кітайцы з даўных часоў стварылі дзяржаву, культуру і цывілізацыю, але гісторыя іх мала мае ў сабе цікавага і навучнага для Эўрапэйца і дзеля гэтага ў гісторыі займаюць яны другараднае месца.

Галоўнае месца ў гісторыі займаюць народы белай расы. А дзеля таго, што гэтыя народы адзначаліся і адзначаюцца найвышэйшай культурай і найцікавейшай гісторыяй у сьвеце, на іх і затрымаемся.

Народы белай расы дзеляцца на тры галіны: хамітаў, сэмітаў і інда-эўрапэйцаў ці арыйцаў.

Ад хамітаў паходзяць: старадаўныя эгіпціяне, ад сэмітаў: жыды, арабы, фінікіяне, вавілёняне і асырыяне і ад індо-эўропэйцаў, ці арыянаў: кельты, італа-грэкі, Літва-славяне, іране і інды.

Затрымаемся на Славянах, дзеля таго, што і мы Беларусы ад іх паходзім.

Славяне ў глыбокай старадаўнасьці перад прыходам у Эўропу жылі ў сярэдняй Азіі. Усе народы белай расы, якія жылі калісь яшчэ ў Азіі, мелі супольную мову, рэлігійныя вераваньні, норавы і абычаі, аднак яшчэ ў перадгістарычныя часы падзяліліся між сабой.

Славяне прышлі ў Эўропу з Азіі ў няпамятныя часы. Перайшоўшы праз „Браму народаў“, пасяліліся часова ў Падкарпацкім краю. Адсюль разышліся яны ў рожныя староны і падзяліліся на тры групы: усходнюю, заходнюю і паўдзённую. З бегам часу гэтыя групы падзяліліся на народы.

Да Ўсходніх Славян належаць: Украінцы, Беларусы і Расейцы, да паўдзённых: Славэнцы, Сэрба-Кроаты і Баўгары, да Заходніх: Палякі, Чэхі, Славакі і балтыцкія Славяне (Сэрбы-Лужыцкія).

Старадаўнасьць аб Славянах бадай нічагусенькі ня ведае і толькі старадаўныя пісьменьнікі Тацыт, Пталёмэй і Пліній I і II ст. па Хрысьце падаюць вельмі кароценькія і недакладныя весткі аб іх. А таксама і пісьменьнікі IV ст. Ёрдан і Пракопій падаюць весткі аб Славянах, але таксама мала дакладныя. Яны першыя і іхныя наступнікі ў сваіх запісках называюць Славянаў „Sklavini“, „Anty“, „Wenety“. Вось гэтымі трыма назовамі яны і азначалі тры знаныя ім славянскія плямі. Ранейшых і дакладнейшых вестак аб Славянах няма. Аднак Нідэрле ў „Slowanske Starożytnosti“ 1902 г. кажа, што першапачатнаю калыскаю

Славянаў, адкуль яны разыходзіліся ў рожныя староны, былі абшары ля сярэдняга Дняпра, Прыпяці і ля Карпатаў, а пасьля пасунуліся на парэчча Віслы і Одэры. Праф. др. А. Лявіцкі хоча даказаць, што прабацькаўшчынай Славянаў іменна і было парэчча рэк Віслы і Одэра і што Славяне былі тут у часы Хрыста, аднак большасьць вучоных выказываецца за погляд Нідэрле.

У гэтай першапачатнай бацькаўшчыне жылі Славяне шмат вякоў, а пасьля, няведама дакладна дзеля якіх прычынаў і калі, моцна расшырылі свае аселішчы. Можна дадумывацца, што змушалі іх да гэтага эканамічныя абставіны і напады дзікіх качаўнікоў — Іранаў.

Славяне са сьветам цывілізаваным доўга ня мелі лучнасьці дзеля таго, што іх аддзялялі качуючыя іранскія народы, каторыя ў той час панавалі над берагамі Чорнага мора. Да гэтых качаўнікоў належылі: Скіфы, Сарматы і Аланы. Гэтыя-ж плямёны вельмі часта нападалі на Славянаў і непакоілі іх. З гэтае прычыны Славяне няраз былі змушаны пасовацца ў іншыя старонкі, дзе ня было прашкодаў. Славяне займалі новыя аселішчы пераважна на ўзбярэжжах рэк, вазёраў, дзе маглі лавіць рыбу дзеля пражыўленьня, а таксама ў лясох (хоць гэта было рэдка).

Вялікае перасяленьне народаў, якое адбылося большменш пад канец IV стагодзьдзя (375 г.) таксама шмат прычынілася да рассяленьня і раздрабленьня вялікай і цесна злучанэй на першапачатных абшарах славянскай сям'і.

У гэтую пару былі адрываны часткі славянскага племя і адціснаны на Захад і Поўдзень. Вось такім чынам, з адзінага славянскага племя, паволі стварыліся тры групы славянаў: Усходніх, Заходніх і Паўдзённых.

А пазьней кожная з гэтых групаў распалася на некалькі галінаў. Усходнія Славяне распаліся на вельмі шмат галінаў, але найвялікшую ролю ў гісторыі Усход. Славянаў адыгралі плямёны: Крывічоў і Палянаў.

Вось, мы Беларусы і паходзім ад слаўнага племя — Крывічоў.

**М. Пяцюкевіч.**

(д. б.)

*Чытайце і пашырайце часопісь „Шлях Моладзі"*

*і прысылайце падпіску (грошы) і матэр'ялы да друку!*

# Куток для спорту.

## Рухавыя гульні і ігры.

Ня толькі чалавек любіць пагуляць, ахвотна гэтаму аддаецца і кожная жывёліна. Хто з нас ня бачыў, як гуляюць каты, сабакі, як прыемна брыкаюць жарабяты, цяляты, як падскаківаючы лапочуць крыльлямі куры, або ў гнёздах бусьляняты, быццам прабуючы сваіх сіл, ці хутка будуць магчы пакінуць сваё гняздо. Кожны Беларус—селянін можа ўсё гэта прыкмеціць пры сваей гаспадарцы. Але ня толькі гуляюць большыя жывёлы, робяць гэта нават найменшыя мушкі, мурашкі і іншыя.

Гуляе кожная жывёла, бо інстынктоўна адчувае патрэбу руху, каторага вымагае жывы арганізм. Гэты рух чалавек і жывёла выяўляюць у гульнях.

Найбольш аддаецца гульням чалавек і жывёла ў сваей моладасьці, бо ў гэтым часе расьце і развіваецца арганізм, патрабуючы многа руху. Пад старасьць няма ўжо такой ахвоты да гульняў, бо арганізм ёсьць тады саўсім разьвіты і не вымагае столькі руху.

Аднак, калі ня будзем рухацца, дык і разьвітыя мускулы могуць аслабець, а нават і цалком загубіць сваю дзейнасьць.

Дык вось дзеля развою нашага арганізму, дзеля падтрыманьня дзейнасьці ўсіх нашых мускулаў патрэбны нам рухавыя гульні і ігры, каторыя ёсьць натуральнай гімнастыкай цела і духа.

Дзеля таго, што гульні адбываюцца пераважна на паветры, яны маюць вялікі ўплыў на нашае цела: спрыяюць дыханьню, змацняючы гэтым лёгкія; рухі падчас іграў і гульняў змушаюць скуру да большага выдзяленьня поту, што ёсьць карысным і неадзоўным для здароўя. Вочы нашыя адпачываюць, гледзячы на ўспакайваючую зялёнасьць расьцінаў.

Рухавыя таварыскія гульні і ігры ёсьць найлепшым выхаваўчым сродкам. Тут учасьнік вучыцца грамадзкасьці, дзеля таго, што ў іграх бяруць удзел цэлыя групы гуляючых. Тут ёсьць выйгрыш аднаго выйгрышам цэлае грамады, а гэта выракляе таварыскасьць і ўменьне прытарнавацца да грамады. Тут выробляецца салідарнасьць, гэта значыць—пачуцьцё еднасьці і лучнасьці; тут учасьнік ігры мусіць часта выракацца собскае прыемнасьці, собскага пагляду, каб толькі давясьці ігру да пэўнае, усім ігракам агульнае мэты.

З ігрой сьціслa злучана дысцыпліна: учасьнік ігры мусіць паддавацца пэўным законам і слухаць пры гэтым старшага.

Старшыя выбраныя да ігры могуць тут выяўляць свае кіраўнічыя здольнасьці.

Усё вышэй сказанае ёсьць нішто іншае, як прыкметы грамадзкага жыцьця, дык учасьнік ігры набывае гэтых прыкметаў, выробляючыся на добрага грамадзяніна.

Апрача ўсіх вышэй сказаных прыкметаў, каторыя даюць таварыскім рухавым іграм першае месца ў фізычным выхаваньні, трэба адцеміць і тое, што ігры ёсьць тормазам азьвярэласьці і завадыяцтва, што ёсьць у кожнага мужчыны дзеля прыроджанага яму баявога інстынкту, які праз выхаваньне ёсьць быццам прыдушаны, але пры кожнай да гэтага спакусе выяўляецца.

У таварыскіх іграх учасьнік іх вычэрпывае надмер энэргіі свайго баявога інстынкту, а грамадзянства мае спакойнага і добрага грамадзяніна.

Калі хлапец ёсьць бяз ніякага дагляду, бяз добрага таварыства і бяз выхаваньня, дык яго баявы інстынкт будзе шукаць выхаду ў розных авантурах, у непаслухмяннасьці да ўстаноўленых грамадзянствам законаў, адным словам станецца разбойнікам, злодзеем.

Нам Беларусам у фізычным выхаваньні трэба зьвярнуць увагу перадусім на ігры і гульні, бо нам, больш як каму, патрэба дысцыплінаваных грамадзян, каторыя-бы патрапілі пасьвяціць свае собскія эгаістычныя пагляды—пераконаньні для агульнага дабра Бацькаўшчыны.

Шукаючы іграў ня трэба далёка аглядацца: Народ наш мае іх вельмі многа.

Пашыя народныя гульні і ігры не ўступаюць іграм іншых народаў, а нават прад многімі могуць пахваліцца.

**Ул. Казлоўшчык.**

---

# Коопэрацыя ў беларускім жыцьці.

Галоўная прычына, чаму Беларускі народ знаходзіцца ў такім цяжкім эканамічным палажэньні, крыецца ў яго неарганізованнасьці. Замест моцнай, масавай арганізацыі, пануе дэзарганізацыя, кожны жыве паасобку. А гэтае расьцярушанае жыцьцё ніколі ня вызваліць нас з кайданаў беднасьці і нядолі, хаця паасобныя адзінкі і будуць мець той ці іншы дабрабыт. Усё гэта мы добра разумеем, але на жаль, мала клапоцімся, каб пакіраваць сваё жыцьцё ў рэчышча арганізованнасьці. Тымчасам, калі мы паўзіраемся на жыцьцё заходня-эўропэйскага грамадзянства, то знайдзем вялізарную рожніцу між нашым гаротным жыцьцём і іхнім, хаця быў час, калі і ў іх панавала бядота і галіта.

Дабрабыт нашага найбагацейшага селяніна будзе ў іх выглядаць нязначным.

Такая вялізарная рожніца між нашым беларускім жыцьцём і заходня-эўропэйскім тлумачыцца тым, што сваё жыцьцё тамашняе грамадзянства ўжо гадоў каля 70 пачало будаваць ды усьцяж будуе на падвалінах арганізаванага, хаўруснага, творчага супрацоўніцтва, інакш кажучы на прынцыпах коопэрацыі. Цахваліцца гэтым нашае грамадзянства, нашае сялянства ня можа.

Ідэя коопэрацыі, або супольная, хаўрусная праца сярод нас пашырана слаба. Сярод нашага грамадзянства, асабліва вясковага, яшчэ і сёньня трымаецца погляд на коопэрацыю, як на нешта такое, без чаго можна лёгка абыйсьціся. Аднак пара ўжо адкінуць на бок усе гэтыя погляды, што перашкаджае нам будаваць сваё жыцьцё на прынцыпах коопэрацыі.

Перш-на-перш коопэрацыя ў нашым беларускім жыцьці шляхом тварэньня рожных коопэратыўных установ значна падымае наш эканамічны дабрабыт—аснову ўсяго нашага жыцьця, назаўсёды забясьпечыць нас ад эксплёатацыі рожных прыватных гандляроў, перакупшчыкаў і інш. Той лішні грош, які пераплачваем мы гандляром, пойдзе на культурна-асьтныя мэты, а такжа створыць свае крэдытныя таварыствы, дзе знайдзем грош у трудную мінуту.

Апрача гэтага, коопэрацыя будзе мець вялікі ўплыў і на маральны воблік нашага грамадзянства, асабліва моладзі. Прыцягіваючы нас да працы, асабліва маладое вясковае грамадзянства, коопэрацыя прывучыць нас да сумленнай, адказнай працы, да арганізаванага жыцьця, што так патрэбна нашай моладзі ў сучасны мамэнт, да салідарнасьці, прывучыць разам весяліцца, сумаваць, разам бараніць свае інтарэсы.

Праз коопэрацыю беларускае грамадзянства, як арганізованная адзінка, здабудзе сабе ўсе грамадзкія і палітычныя правы. Агулам кажучы, коопэрацыя паможа нам пры нашай беднасьці, малазямельлі заваяваць тое, што дае багатым людзям капітал. Самае-ж галоўнае, што можа даць Беларускаму Народу коопэрацыя, дык гэта важную дапамогу ў той барацьбе за свае нацыянальныя і сацыяльныя правы, за якія ён вядзе сяньня гэройскую барацьбу.

Беларуская моладзь! Ты авангард свайго народу,—будзь праваднікам коопэратыўнай ідэі ў нашым жыцьці! Гуртуйся сама каля коопэратыўных арганізацыяў, намаўляй, паддавай ахвоты да гэтага і старэйшаму грамадзянству!

**К. Матусэвіч.**

# З тайніцы прыроды.

Цар зямлі і жывёлаў, карона творчасьці Божай на зямлі, чалавек, вялізарнымі тэлескопамі хоча пазнаць сьветы, што знаходзяцца ад яго на мільярды кілямэтраў, або мікраскопамі ў 300—500 разоў павялічвае звычайным вокам нявідомую жывёлінку, каб яе ўбачыць з макавае зернятка. Многа ён чаго пазнаў і даведаўся, а многа чаго асталося яму загадкай дагэтуль незразумелай...

Хтож з нас ня чуў аб хваробе трасцы (Malaria), якая перайшла нават у пагаворку? Вось-жа гэту хваробу знал дзьве тысячы гадоў жывучыя перад намі Грэкі і Рымляне. Ведалі яны толькі тое, што яна найчасьцей паяўляецца ў балоцістых і нізкіх ваколіцах, але чаму гэта так было, аставалася для іх загадкай. Час ішоў, а людзі ўсьцяж ламалі галовы над апошняй прычынай гэтай хваробы.

Ажно 1880 г. вучоны францускі Лявэран адкрыў, што хваробу гэту параджае паразіт (такая жывучка), каторага назваў ён Plasmodium malariae. Але ізноў загадкай асталося, як гэты паразіт дастаецца ў людзкую кроў. І вось 17 гадоў таму выясьнілі гэту справу другія вучоныя (Ross і Grassi), што паразіта малярыйнага з хворага людзкога арганізму пераносяць самкі спэцыяльнага гатунку камароў (Anophales claviger). Самкі, бо ім патрэбна кроў для сваіх зародкаў. Сядаюць яны на хворага на трасцу чалавека і ссуць кроў з заразкамі; як гэтыя заразкі дасталіся ў чалавечы арганізм а першы раз — навукай ня выясьнена. Гэтыя апошнія разраджаюцца як у целе чалавека, так і ў целе камара. Адзін камар можа ў сабе насіць некалькі дзесяткаў тысяч такіх малярыйных заразкаў. Сядаючы на чалавека і кусаючы яго, камар ізноў упускае у чалавечы арганізм паразітаў, якія дылей там пачынаюць размнажацца. У часе гэтага працэсу ў чалавека падымаецца гарачка да высокай тэмпэратуры. Наогул заразкі раскладаюць чырвоныя целкі крыві і чалавек становіцца малакроўным (anemja), хірлее і паяўляецца ў яго трасца.

Вылечыць гэту хваробу даволі трудна; а часта саўсім немагчыма; найлепш пераняcьціся з нізін у вышэйшыя мяйсцовасьці, напр. у горы. Проці трасцы ці малярыі ў розных краях падаюць розныя спосабы. Перадусім падымаюць барацьбу проці камароў.

І так у Італіі, дзе вельмі многа людзей на гэту хваробу хварэюць, прапануюць залiваць балоты газай, каб здохлі зародкі (яйкі) камароў малярыйных.
Паслы там у парлямант, так як у нас зямлю і родную мову ў школах і сьвятынях, прыракаюць выбаршчыкам, што будуць змагацца з малярыяй.

У Амэрыцы радзяць (і робяць так патроху) капаць у балотах глыбокія равы і развадзіць у іх карасяў, якія паядаліб яйкі камароў малярыйных і такім чынам не пашыраласяб трасца.

Немцы гадуюць кажаноў, бо яны масова пажыраюць камароў. А бальшавікі забіваюць соў, бо яны дзяруць кажаноў, якія як сказана, сваей чаргой зьядаюць камароў.

У нас найлепш высякаць і асушаць балоты, дык будзе і зямля для земляроба і згінуць камары малярыйныя.

Але вось ёсьць другая хвароба: паралюш паступовы (Tabes dorsalis), якую дагэтуль няма спосабу вылечыць. Аднак заразкі яе ня могуць выдзержаць гарачкі, якую мае чалавек хворы на трасцу. Дык хворых на паралюш паступовы заражаюць у адумысловых лякарнях на трасцу; заразкі паралюшу і сама гэта хвароба гіне, а пасьля вылечываюць з трасцы.

Гэтак вось ходаецца чалавек з няпрыхільнымі зьявішчамі прыроды. Нешта ўжо знае з яе тайніцы, а многа, многа асталося йшчэ даведацца!

**Я. М.**

---

# „Вучнеўскі Звон“ пры „працы.“

Як ведама, пад рэдакцыяй дырэк. Беларускай Віленскай Гімназіі выходзіць часопісь „Вучнёўскі Звон“ і завецца органам вучнёўскай моладзі тэй-жа гімназіі. Мэта гэтай часопісі, як відаць з яе зьместу — разьбіваць беларускую незалежніцкую народную моладзь, што гуртуецца каля часопісі „Шляху Моладзі.“

У нумары 2 гэнага „слаўнага“ „Звону“, ня гледзячы на тое, што яе пішуць быццам самі вучні, спатыкаем такія рэчы, ад якіх валасы на галаве станавяцца. Відаць камсамольцы перамяшаліся з фашыстамі, каб супольнымі сіламі змагацца з усімім беларускім.

Вось-жа ў гэтай стацьці, аблаяўшы ўсю беларускую моладзь за яе „духовае аплытчэньне“ (а як-жа!) „вучні“ прыпісываюць нам знаёмасьць толькі дэдукцыйнай мэтоды, а гэта за тым, што сярод супрацоўнікаў „Шляху Моладзі“ ёсьць так-жа і студэнт багаслоўя. Ня ведаюць яны аднак, што апрача індукцыі, дэдукцыяй карыстаюцца ня толькі багасловы, але так-жа і прыроднікі, калі яны хочуць свае высновы, здабытыя індукцыяй, праверыць усыстэматызаваць.

Тыяж „вучні“ ў тэй-жа стацьці прыпісалі нам „аплёвываньне“ Есеніна, нядаўна памёршага расейскага паэта, якога, як кажа „вучань“ „чытае і цэніць уся сучасная інтэлігенцыя.“

Вось-жа пляваць на Есеніна, ані на нікога мы нават і ня зьбіраліся, гэтую мэтоду пакідаем „вучням“ беларускай гімназіі, а высказывацца ад імя ўсей сучаснай інтэлігенцыі рызыкоўна і не разумна, пры тым трэба ведаць, што ў Есеніна (выданьне поўнае, бальшавіцкае) ня ўсё і ня кожнаму (асабліва моладзі) варта і можна чытаць.

Пісакі „вучнёскай“ часопісі, праўда, дужа цьвёрды ў тым, што вычытаюць у падручніках і дужа гневаюцца на нас, калі мы да даных падручнікавых адносімся крытычна. Яны напрыклад пэўны, што ў Верхаянску крайняя тэмпэратура 69, а нават і 70 градусаў холаду, бо так напісана ў падручніках і лаяць нас на чым сьвет' стаіць за тое, што мы да гэных лічбаў адносімся крытычна. Дык няхай-жа будзе ведама „вучням“ „Вучнёўскага Звону,“ што крайняя тэмпэратура ў тым Верхаянску — 67,8'. Так кажа „Podręczny słownik gieograficzny“ 1925—7 і „Ilustrowana Encyklopedja Trzaski, Ewarta i Michalskiego“, кончыўшая выходзіць годдва таму.

Ды ня спосаб пералічыць усіх брэдняў і часта звычайных гадасьцяў, скіраваных проціў нас у „слаўным“ „Вучнёўскім Звоне.“

Ну што-ж—як зайграюць, так і скачуць!

Мы аднак пэўны, што огул моладзі Віл. Бел. Гімн. з агідай ад сябе адапхне нашэпты лякаёў і пойдзе чэснай беларускай народнай дарогай разам з усей беларускай моладзяй. **Z.**

---

# Літэратурны аддзел.

## ШЛЯХ МОЛАДЗІ.

Глядзіце! Шлях Моладзі просты —
Мы сьмела ўсе пойдзем за ім,
Хоць можа ён будзе цярністы,
Хоць бура спаткае — ўстаім!

Для нас ён тэй зоркаю будзе,
Што ўсіх да збаўленьня вядзе
І моладзь уся за ім пойдзе,
Ня зблудзіць ніхто і нідзе.

Мы доўга і так ўсе блудзілі
У цемры па сьцежках чужых,
Зблудзіўшых нас часта кідалі
На зьдзекі ў вастрогах сырых.

Цяпер-жа шлях просты мы маем,
То моладзі нашай ёсьць Шлях,
Прызыву айчыны чакаем,
Народны паднімем свой сьцяг.

Дык Моладзі Шляхам ідзіце,
Айчыны забранай сыны,
З цямноты Яе вызваляйце,
Бо даўна ўжо клічуць званы!

**Леанід з пад Вішнева.**

## УСТАНЬ, РЫЦАР СЛАЎНЫ!

Распутай Пагоню,
устань, рыцар слаўны,
вазьмі у далоню
наш гэрб, сьцяг дзяржаўны.
Акрый гэтым сьцягам
Пакутну Старонку
й ляці роўным шляхам
за доляй ў дагонку.
Ляці, ня спыніся,
стаўляй ўсіх на ногі,
каб зараз ўзяліся
наладзіць нарогі.
Наладзіць нарогі
і ехаць у поле
араць ўсе адлогі
і чысьціць з куколя.
І сеяць на плоднай
зямельцы зярняты,
каб кожны быў ў Роднай
Старонцы багаты.

**Ул. Казлоўшчык.**

## ДА ШЧАСЬЛІВАЙ ДОЛІ.

Ах, ты доля, шчасьлівая доля!
Ах, куды ты ад нас уцякла?!
Без цябе сэрца сохне ад болю,
Бяда смуткам душу спавіла.
Льюцца сьлёзы з вачэй бязупынку,
Льюцца сьлёзы буйныя, як град,
Прыдзі, доля, да нас на хвілінку,
А з нас кожны з цябе будзе рад!
Прымем цябе мы тут, як царыцу,
З хлебам, соляй, крынічнай вадой,
Прыдзі, доля, на нашу зямліцу
Разлучаць наз з тым горам-бядой.
Прыдзі, просім цябе, прыдзі толькі,
Прыдзі, мілая доля, хутчэй!
Загаі нам у сэрцы ўсе болькі,
Абатры нашы сьлёзы з вачэй!

**Т. Кучка.**

## СКАЖЭЦЕ.

Ах, родна старонка,
Пакутна мая,
Крывавай рукою
Ты сьпісана ўся.
У крыўдзе і ў зьдзеку
Ты бедная сьпіш,
Ад сьлёзаў — уціску
Бяз руху ляжыш.
Куды не паглянеш:
Магілы — крыжы,
Ну проста за імі
Жывы сам ідзі.
Зкажэце вы людзі,
Скажэце вы мне,
Калі зло мінецца
І ў процьму спадзе,
Яснае сонца
Калі заблішчыць,
Свабода над краем
Маім загудзіць,
І праўда пагляне,
Народ ажыве
І родная ніва
Уся зацьвіце?... **Малады Дубок.**

## УСТАНЬ-ЖА, БРАТ!..

Устань-жа, брат, з сваей няволі,
Устань і сьскінь з сябе той сон,
Што ўжо намучыў це даволі...
Устань і зьнішч, бо збрыдзеў ён.
Прыгледзься, брат, на сьвет вачыма —
Агні гарацць ужо для нас,
Свабода дзьверы нам адчыне —
Устань-жа, брат, бо ўстаці час!
Устань-жа, брат, бо будзе позна! —
І зьнішч, скрышы бяду і зьдзек
Цябе хоць злыдні сочаць розна,
Ды ты-ж ня быдла — чалавек!
Устань-жа, брат мой Беларускі,
Займі жыцьцёвы свой пасад,
Хай злыдні знаюць, што дар Боскі
Нам даны ўсім — устань-жа, брат!
Устань-жа, брат — парві ты путы,
Бо усьмяхаецца ўжо май —
Скрышы ты гора і пакуту —
Пара даўно... ўставай, ўставай!...

**Антон Бедны.**

## ВЯСЕЛЬНАЯ НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Зьвінела каморачка зьвінела,
Дзе малада дзевіца сідзела (2 разы)
Вялікую думушку думала.
Ой ні аддай ойчэнька ты міне,
Перабуду зімушку я ў цібе.
А як цібе дочэнька ні аддаць,
Наехалі госьцікі, хочуць узяць.
Папускалі коні ў вішнёў сад,
Няхай тыя конікі паходзяць,
Зялёную рутаньку пабродзяць,
Зялёная рутанька жоўты цьвет,
А ўжо табе дзевіца дваццаць лет.
Прыедзь, прыедзь ойчэнька з касою,
Скасі маю рутаньку з расою.
Прыедзь. прыедзь братэнко з вазочкам,
Зьбяры маю рутаньку з пясочкам.
Запісаў у Ваўкавышчыне **М.Сарока.**

## ЗІМА.

Ты зіма мая, маразяная,
Змарозіш мяне, мяне моладу.
Ня так мяне моладу,
Як майго дружка з паходу ідучы.
З паходу ідучы, машыруючы.
Машыруючы, каня вядучы.
На яго коніку плетні плятуцца,
На яго галоўцы кудрачкі ўюцца.
За яго малойца дзевачкі б'юцца.
Ой пайду я на рынак, на рынак гуляць,
На рынак гуляць, коніка купляць.
Ой куплю я каня, каня агярца,
Каня агярца для свайго айца.
Для сваей матулі белу кашульку,
Для свайго брацяткі—аструсянькі меч.
Для сваей сястрыцы руцяны вянец,
Для сваей міленькай шаўковы плацец.
Запісаў Антон Янкоўскі са слоў
**Стэфановічышкі** ў в. Адамчукі.

## ПУШЧУ Я ПАВУ.

Пушчу я паву па Дунаёчку,
А я сама пайду па беражочку,
Ды ці ня увіджу таткавы сені.
Хоць і увіджу, там мне ня быці,
Мне там ня быці, з таткам ня жыці.
Новыя сені не падмятаці,
Цісовыя сталы не засьцілаці,
Залатыя кубкі не наліваці,
Таткавых гасьцей не частаваці.
(Народная песьня, зап. **С. М.** у м. Казяны).

# Пачатак вясны.

О, вясна, вясна, колькі-ж ты радасьці нясеш для нас! Такімі славамі спаткаў вясну стары Габрусь, седзячы на прызьбе пад старэнькай хаткай, якая ўжо чуць трымалася ў паветры і чакала таго хуткага часу, калі ёй трэба будзе разьвітацца з старым Габрусём.

Аб чым стары Габрусь думаў, седзячы на прызьбе — ніхто ня ведаў, толькі можна было дагадацца, што ён сумаваў па сваёй моладасьці, каторая так хутка праляцела.

Бывала, як быў ён малады, дык цэлая вёска грымела. Заўсёды весяліў ён моладзь: ці на вячорках, ці гдзесь на полі пры працы, — усюды нёсься яго голас і яго слава. А цяпер заціхла ўсё, як быццам замёрла... Як толькі зямелька азяхалася пасьля доўгае і цяжкае зімы, Габрусь выходзіў на поле і працаваў ад цёмнага да цёмнага. А цяпер старасьць — ня радасьць...

Скора думка за думкаю прабягалі ў старога Габруся. І вось раптам пачуў ён крык жураўлёў, якія доўгімі шнюрамі цягнуліся з выраю ў свой родны край.

Бо кожнаму, як чалавеку так і птушкам свой край наймілейшы, найдаражэйшы і найвясялейшы... Цяпер стары Габрусь ня сьцерпіў і сьлёзы пацяклі з вачэй. Спусьціў галаву ніжэй, падпёрся рукою і так доўга, доўга сядзеў ён і аб нечым думаў.

А сонейка што-раз усё мацней і мацней прыгравала. Мушкі і камаркі пачалі гудзець каля сьценак хаты быццам цешыліся, што сонейка паказала сьвету свае прыгожанькія коскі.

Крык і гоман на сяле разносіўся ад малых дзетак, якія пасьля доўгай зімы павыпаўзалі як мурашкі з турмы— хаты і любуюцца гэтым вяснавым цяплом.

Ручаёчкі што-раз мацней і мацней чурчэлі і цяклі гдзесь у бязьмерны простор... А там далей віднелася рака— Бярэзіна. За ракой цягнуліся абшары палёў з нерастаіўшымі яшчэ палоскамі сьнегу...

Ачухаўся стары Габрусь. Сонейка ўжо зьвярнулася з паўдня і пачало слабей грэць. Стары Габрусь памаленьку ўстаў, пацягнуўся пару разоў, уздыхнуў цяжка і павольна пайшоў у сваю старэнькую хату.

Але мала яму прышлося любавацца гэтай вясной — у пачатку мая, на горцы за вёскай віднелася сьвежая магілка старога Габруся!

Я. Б.

# Лісты.

## ПАТРЭБА СВАЕЙ БЕЛАРУСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ.

**Пархвенаўская гм.,** Дзісн. пав. У той час, як у ва ўсей Заходняй Беларусі моладзь бярэцца да працы на родным нацыянальным загоне — будзячы сьведамасьць сярод старэйшых і ўзгадоўліваючы падрастаючае пакаленьне ў духу нацыянальным беларускім і гэтым проціўстаўляецца полёнізацыйным уплывам, — у нас зусім іншае. Моладзь, прайшоўшы польскую школу — скорая толькі да выпівак, бояк і рознага глупства.

Відзячы гэтакі стан нашай моладзі, як груганы на падліну сунуліся на яе польскія вучыцялі, арганізуючы „Koły Młodz. Wiejskiej". З кожным месяцам то там то сям у нашай гміне паўстае „кола".

Цэль іх — падняцьце роўня ўмысловага і збагачэньне маральнае і матэр'яльнае. Гэта па славах статуту. Сапраўдныя-ж цэлі выключна полёнізацыя.

Дык лепшыя адзінкі, інстынктоўна адчуваючы пагрозу ад гэтых „колаў", уцякаюць ад працы, ад дзейнага ўчасьця ў жыцьці колаў.

Дык трэба неадкладна тварыць свае родныя арганізацыі моладзі, якія толькі і змогуць выканаць тыя заданьні якія ў польскіх арганізацыях ёсьць толькі параванам, фігавым лістком, за якім крыецца агідная сапраўднасьць.

Дык да працы покі сэрца б'ецца! **В.**

## УЦЯКАЮЦЬ З ПОЛЬСКІХ КОЛАЎ.

**в. Вялікая Бухаўшчына,** Нясьвіскага пав. Моладзь нашая, будучы нясьведамай і наслухаўшыся розных агітатараў, якісь час лезла проста, як кажуць, у польскую арганізацыю „Koło Młodzieży Polskiej". Аднак у меру таго, як пачало старэйшае грамадзянства ўсьвядамляцца і моладзь зразумела, што ёй гэтыя чужыя колы нічагусенькі добрага не дадуць і пачала адтуль уцякаць. Калі-ж дзе ў такіх колах моладзь наша і астаецца, жаднае дзейнасьці не праяўляе.

Бачачы гэта, польскія агітатары пачалі арганізаваць ужо новае „Koło Kobiet Wiejskich".

Агітатары прадусім заманьваюць у свае „koły" дзяўчат абяцанкамі, што шмат чаго навучаць іх. Канец-жа канцоў астаецца гэта ўсё пустым словам і больш нічога. Як прыехала інструктарка, дык першы раз пайшлі ўсе паслухаць, але ніхто нічога не разумеў, бо яна гаварыла чужой польскай мовай. Далей больш ніхто не пашоў і інструктарка ня мела што рабіць.

Гэта гаворыць за тым, што мы павінны тварыць свае беларускія арганізацыі, бо чужыя сапраўды нічога нам не дадуць.

**Зорка.**

## ПАРА КІНУЦЬ ПІЦЬ ГАРЭЛКУ!

**м. Жыравіцы**, Слонімскага пав. Чытаючы ў „Шляху Моладзі“ аб жыцьці вясковае моладзі, я цікавіўся пазнаць жыцьцё молодзі мястачковае. Аднаго разу пайшоў я на вечарынку, прасядзеў там нават доўгі час і ўцешыўся бачучы, што моладзь цьвярозая, зусім спакойна і прызваіта гуляе. Аля вось калі рушыў я ісьці да хаты, убачыў у дзьвярох брыдкі, абраз Двух маладых хлапцоў, не раўнуючы як жывёліны, проста ракам, як, кажуць, лезлі ў хату. Цьвярозыя, літуючыся памаглі ім увайсьці і пасадзілі на крэсла. Яны аднак не сядзелі спакойна і пачалі біцца, бачачы гэта тыя самыя, каторыя памагалі ім уваходзіць вывялі іх з вечарыны і завялі дамоў спаць

Дарагая моладзь, стыдна нават падумаць аб такіх рэчах. Пара ўжо, даўно пара стаць на добрую дарогу! Трэба кінуць піць гарэлку, марнаваць грошы, здароўе!

Мы маем свае арганізацыі, свае часопісі, каторыя патрабуюць падтрыманьня і да каторых мы павінны належаць, дык трэба замест таго, каб п‘янстваваць, ахвяраваць што на агульную грамадзкую мэту.

Зробім мы гэта нават выпісваючы і чытаючы свае беларускія кніжкі ды часопісі, як „Шлях Моладзі“ ды інш. а гэтым самым навучымся жыць!

Пара апамятавацца. **Жыравіцкі.**

## З ЖЫЦЬЦЯ НАШАЙ МОЛАДЗІ.

**в. Гаравыя, з. Карчы і Пабяржыні,** Браслаўскага пав Моладзь гэтых трох названых мяйсцовасьцяў часта ладзіць вечарыны, на каторых зьбіраецца шмат моладзі сваей, а такжа прыходзяць і з суседніх вёсак.

На вечарынах моладзь, асабліва дзяўчаты, пяюць свае беларускія песьні і прыпеўкі.

Хлопцы дык мала пяюць, бо часу ня маюць. Ім „трэба“ выпіцъ прышоўшы на вечарыну, а тады пабіцца. А калі пяюць якія песьні, дык прынесеныя з польскіх казармаў. Калі паслухаеш іхныя сьпевы з перакручваньнямі словаў, дык сьмешна і жудасна робіцца на сэрцы.

Пара ўжо ўзысьці на добрую дарогу, узяцца за культурную працу! Выпісаць добрую газэту і кніжку за прапіваныя грошы, і сабраўшыся пачытаць ды навучыцца палюдзку жыць! Залажыць Гурток Бел. Інстытуту Г. і К., ладзіць свае беларускія спэктаклі, а не хадзіць на панскія і асадніцкія прадстаўленьні ў Замоша! **Карчоўскі.**

## АБНАВІЦЦА ТРЭБА.

**в. Кокошыцы, Слонімскага пав.** Прышлося мне пабываць у Слонімскім павеце. Ішоўшы дарогаю, я спаткаў чалавека з вёскі Какошчыцы. Мне зацікавілася ведаць, як жыве вясковая моладзь, я пачаў яго распытваць. Ох, —кажа — кепскія цяпер часіны насталі.

У 1929 г. было ціха, быццам у тым лесе густым, што стаіць недалёка вёскі за вазярком у даліні.

Нядаўна ў нас залажылі беларускую бібліатэку, ладзілі спэктаклі, вечарыны, складалі дэклерацыі на родную беларускую школу, на вечарынах сьпявалі беларускія песьні і ўсе думалі, што наша Беларусь калінебуць стане вольнай. Але цяпер усё папсулася, пайшло ўсё да горшага. Дык час апамятацца і ўзноў лепшае жыцьцё наладзіць.

**Непакорны.**

## КАЛІЖ МЫ НАВУЧЫМСЯ ЖЫЦЬ!

**в. Гірбеняты**, Валожынскага пав. У нашай вёсцы перад самамі запустамі адбылося вясельле.

На гэта вясельле сабралася многа моладзі з вёсак: Войштавіч, Алянава і Шальцін. Зразу відаць было, што да добрага тут ня дойдзе. Як прыказка кажа: „гдзе сем няняк, там дзіця бяз носу,“ так і тут...

З пачатку гулялі як і трэба было, а пасьля пачалі біцца.

З вёскі Алянава хлопцы больш разумнейшыя, дык пайшлі да хаты, а хлопцы з іншых вёсак напалі на хлопцаў жывучых у в. Гірбенятах і зьбілі іх. Б. Матусавага, Ю. Клачковага і Б. Стрэлявага так моцна пакалечылі, што трэба было адвесьці іх да дохтара ў Вішнева.

Вось да чаго дайшла моладзь! Самі ня ведаюць, што робяць.

Дык пара ўжо розуму набраць у сваю слабую мазгаўню! **Янка Ваўштолскі.**

---

# Хроніка.

**Т-ва Беларускай Моладзі „Будучыня.“** 17 г. м. закладчыкі Т-ва Беларускай Моладзі „Будучыня“ падалі ўжо другі раз у Віленскае Гарадзкое Староства статут Т-ва, паправіўшы яго і застасаваўшы §§ 10 і 11 да вымогаў абавязуючага 6 арт. Ген. Кам. Усх. Зям.

**Сьвяткаваньне 12-х ўгодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.** У аўторак 25 г. м. прыпадаюць 12-я

ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Беларускае грамадзянства зьбіраецца гэтае вялікае сьвята належна адсьвяткаваць. І так у Вільні ў гэты дзень а гадз. 10-ай у касьцеле сьв. Мікалая будзе адпраўлена ўрачыстае набажэнства, пасьля а гадз. 12 будзе так-жа адпраўлен малебен у царкве сьв. Мікалая (Вялікая вул. 30). Вечарам-жа а гадзіне 6-ай у салі Гандлёва-Прамысловага Клюбу (Міцкевіча 33) Беларускі Нацыянальны Камітэт ладзе ўрачыстую акадэмію, дзе прачытае лекцыю кс. В. Гадлеўскі, выступаць будзе хор і салісты. Уваход на акадэмію вольны (бясплатны).

**Беларускі Нацыянальны Камітэт.** 2 г. м. адбыўся сход Бел. Нац. К-ту. Старшынёй сходу быў сэнатар Рагуля, сэкрэтаром М. Пецюкевіч. На сходзе апрача справаздачы і прыняцьця новых сяброў К-ту быў прыняты Рэгулямін Беларускага Нац. К-ту. Пасьля гэтага абгаварваліся справы: сьвяткаваньня Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, юбілей Вял. Князя Літоўскага Вітаўта, справа праваслаўнага Сабору, справа прасьледаваньняў беларусаў маскоўскімі камуністамі ў Усходняй Беларусі і справа выбараў у Сойм у Лідзкім вокрузе, каторыя Найвышэйшы Суд скасаваў з прычыны пратэсту Блёку Нацыянальных Меншясьцяў (№ 18). Справа выбараў, каторыя ўжо назначаны на дзень 25 траўня с. г. даручана як і іншыя прэзыдыўму К-ту. На наступны год выбраны ў прэзыдыум К-ту сэнатар В. Багдановіч, як старшыня, 1 віцэ-старшыня пасол Ал. Стэповіч. 2. — пас. Ф. Ярэміч, сэкрэтар Я. Пазьняк, скарбнік сэнатар Рагуля, кандыдаты — студэнты Т. Куніцкі і Ф. Леўша. Моладзь згуртаваную каля час. „Шляху Моладзі" рэпрэзэнтавалі Я. Багдановіч і Я. Найдзюк.

**„Пагоня"**. Пад гэткім загалоўкам беларуская моладзь у Рызе (Латвія) пачала выдаваць беларускую часопісь. Дагэтуль вышаў № 1. Часопісь агулам робіць уражаньне дадатнае. Шмат там спатыкаем маладога ідэалізму. А ў нашыя зматэр'ялізаваныя часы гэта вялікая рэч. Не забывайма, што да лепшага жыцьця чалавецтва вядуць іменна ідэалісты, а не матэр'ялісты.

**Канфіската „Беларускай Крыніцы."** У гэтым месяцы быў сканфіскаваны № 8 „Бел. Крыніцы" за стацьцю „Польска-беларуская палітыка" і № 10 за стацьцю „Сонці стогн."

**Суд над Рэдактарам Я. Пазьняком.** 17 г. м. у Віленскім Акружным Судзе разглядалася справа рэдактара „Беларускай Крыніцы" гр. Я. Пазьняка за зьмяшчэньне ў № 56 „Беларускай Крыніцы" артыкулу „Выезд з Прагі гр. Шэдівага", каторы ўлады адміністрацыйныя сканфіскавалі. Суд, разгледзіўшы справу, рэдактара гр. Я. Пазьняка апраўдаў.

**Протэстацыйная веча** супроць уціску беларусаў у Ўсходняй Беларусі пад панаваньнем маскоўскіх камуністаў, было наладжана беларускімі студэнтамі ў памешканьні Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, Віленская 8. 18 сьнежня: на вечы некалькімі студэнтамі беларусамі былі зроблены даклады, характэрызуючыя сучаснае палажэньне ўва Ўсходняй Беларусі і вынесены рэзалюцыі супроць уціску.

**Арышт Якуба Коласа.** Нядаўна газэты падалі весткі аб арышце аднаго з найвялікшых беларускіх народных паэтаў Якуба Коласа, пражываючага ў Менску. Весткі гэтыя аднак няпэўныя.

**69-я ўгодкі сьмерці Тараса Шэвчэнкі.** Тарас Шэвчэнко — гэта вялікі ўкраінскі паэт, прарок і мастак, сын беднага селяніна. Жыў ён у часы, калі ўсе дрыжалі перад сілай маскоўскіх цароў, праз каторых ён быў вязьнены, ссыланы ў Сібір за працу для сваей Бацькаўшчыны Украіны. 69 гадоў таму назад Тарас Шэвчэнко памёр, але яго творы, яго праца, яго словы прарочыя зрабілі тое, што з кожным годам памяць аб ім сярод украінскага народу ўсьцяж становіцца жывейшай.

Украінскае грамадзянства кожны год вельмі ўрачыста сьвяткуе гадоўшчыну яго сьмерці.

Вось-жа ўкраінскія студэнты, што вучацца ў Вільні і сарганізаваная ў Кружку Студэнтаў Украінцаў 8 г. м. таксама ладзілі канцэрт-акадэмію, пасьвячаную 69-м угодкам сьмерці Тараса Шэвчэнкі, на якім выступаў з прамовай пасол а. пралат Куніцкі, прыехаўшы з Львова, у прыгожых словах рысуючы дзейнасьць і значэньне Тараса Шэвчэнкі. Пасьля пяяў хор і салісткі, а так-жа вельмі прыгожа іграў на бандуры, народным украінскім інструмэнце, бандурыст— украінец К. Місевіч.

На канцэрце апрача ўкраінцаў было многа беларусаў, ліцьвіноў, а нават і палякоў. Уражаньне вельмі дадатняе.

**Пасол а. пралат Куніцкі ў Касьцеле сьв. Мікалая.** Будучы у Вільні ўкраінскі пасол а. пралат Куніцкі 9 г. м. у касьцеле сьв. Мікалая у тым часе, калі адбываецца набажэнства для беларусаў, адправіў набажэнства паводле грэка.-кат. абраду і сказаў казаньне па ўкраінску. Хор касьцельны ў часе набажэнства пяяў беларускія рэлігійныя песьні.

**З Польшчы.** У вялікшых местах Польшчы як Варшава, Лодзь і інш. з прычыны вялікіх падатковых налогаў, купцы страйкавалі і пратэставалі не адчыняючы зусім скляпоў у працягу цэлага дня.

— З прычыны таго, што Сойм выразіў недавер для мін. Прыстара, цэлы ўрад Бартля падаўся ў адстаўку. Новы ўрад Прэзыдэнт даручыў утварыць маршалку Сэнату Шыманскаму.

**З заграніцы.** Нямеччына з Польшчай падпісала гандлёвы дагавор. Як пішуць газэты, Польшча ў спорных справах гэтага дагавору зрабіла значныя ўступкі.

Папа рымскі, а так-жа і іншае духавенства афіцыяльна выступіла проціў рэлігійных прасьледаў у С.С.Р.Р, да гэтага пратэсту прылучаюцца і сьвецкія арганізацыі бадай усяго сьвету. 19 г. м. былі у ва ўсіх касьцёлах кат. адпраўлены набажэнствы за прасьледаваных.

— Паміж С.С.Р.Р. і Румыніяй ідзе далей спор за Бэсарабію. Газэты нават пішуць, што з гэтага могуць вынікнуць паважныя падзеі, не выключаючы вайны.

— У Індыі апошнім часам дайшло да паважнага спору паміж правадыром індыйскіх народнікаў Гандім і ангельскім віцэ-каралём. З прычыны таго, што англійцы ня споўнілі жаданьняў індыйцаў што да самастойнасьці Індыі, апошнія пагражаюць паўстаньнем.

— У Літве памёр вучоны Ёнас Яблонскіс, якога звалі, дзеля вялікіх яго заслугах на полі літоўскай філёлёгіі, бацькам літоўскай мовы.

— 7 г. м. Чэхаславацыя ўрачыста сьвяткавала 80-ці лецьце свайго прэзыдэнта прф. Тамаша Масарыка, якога вельмі любіць і ўважае за яго працу, паложаную на ніве адраджэньня Чэхаславацыі. Называюць яго апосталам дабра і справядлівасьці, на што заслужыў ён сваей працай і паступкамі.

— Аўстрыяцкі прэм'ер міністраў Шобэр нядаўна ад ведаў Італію, з якой Аўстрыя падпісала дагавор прыяцельства. Далей Шобэр адведае Нямеччыну, пасьля Францыю, Англію і іншыя дзяржавы.

— У Мэксыку (сярэдняя Амэрыка) выкрыты камуністычны загавор проціў тамашняга ўраду і дзяржаўнага ладу. З гэтай прычыны ўрад Мэксыку сарваў дыплёматычныя зносіны з С.С.Р.Р., адклікаючы свайго пасла.

— У Амэрыцы паміма таго, што таксама цяжкаватае палажэньне эканамічнае, аднак гандлёвы білянс выказвае вялікія даходы!

— У Румыніі адбыліся нядаўна выбары да самаўрадаў. Вялікую перамогу выказала ўрадавая нацыянальна-сялянская румынская партыя прэзыдэнта міністраў Маню. Трэба адзначыць, што на выбарах праваліліся тамашнія камуністы.

# Усячына.

**Чыкаго**, места ў Амэрыцы, якое цяпер мае мільёны жыхароў, 100 гадоў таму назад мела іх усяго 70.

**Людзкая скура**, як прызнаюць дактары, мае больш як два мільёны дзюрачак, праз якія выходзіць пот.

**Вячэрняе малако** каровы, як прызнаюць знаўцы, дае больш пажыву, чымсь раняшняе.

**Медзь**, як пішуць вучоныя, была знана ў Эгіпце 7000 гадоў таму назад.

**332 вастрогі**, як пішуць газэты, мае Польшч і ў іх сядзіць 34.863 вязьні.

**У Амэрыцы** ў 18 школах уведзена замест каліграфіі навука пісаньня на машынах.

**10.000 камуністаў** у С.С.Р.Р., як пішупь газэты, забітых за 1929 г. у часе змаганьня з „кулакамі“.

**Ломяць лёд хімічным спосабам.** Нядаўна ў Канадыйскім порце Ляўзон, дзе замерз вялікі італьянскі карабель так моцна, што ня мог рушыць з мейсца, праф. Барнас у прысутнасьці вялікага ліку людзей, ламаў лёд хімічным спосабам. Ён пры помачы помпы пусьціў на лёд ручэй вынайдзенай ім цечы, з прычыны каторай лёд у працягу трох мінут распаўся на дробныя кусочкі так, што можна было нават езьдзіць на невялікіх лодках.

**212 цьвякоў у жываце жанчыны.** У м. Лодзі ў шпіталі падчас апарацыі Марціены Бэрнасёвай дахтары знайшлі ў жываце 212 цьвякоў дробных і 2 пяціцалёвыя якія важылі 555 грамаў. Жанчына гэта глытала цьвякі дзеля самагубства.

**Найбольш зужывае паперы** жыхар Злуч. Станаў Амэрыкі, бо аж 63 кл. за год, англіец 37 кл., немец 26 кл. Найбольш-жа вырабляецца паперы ў Швэцыі, бо дастаўляе яна аж 50 дзяржавам.

**35 чалавек пад вадой.** Нядаўна на Сьвірскім возеры ў Сьвянцянскім пав. здарыўся страшны выпадак. Вось-жа свадзьба вясельная, якая ехала ў Сьвір, хацела скараціць сабе дарогу і паехала праз слаба замёрзшае возера, ня ўсьпела аднак даехаць паловы і лёд заламаўся, а ўсе вучасьнікі вясельля ў ліку 35 асоб разам з коньмі і саньмі ўтанулі. Жывым астаўся толькі вазьніца, які вёз здалёк куфар.

**Вялікі тунэль** Нядаўна адчынены валікі тунэль праз Апэнінскія горы для новай жалезнай дарогі, якая лучыць Болівію з Флёрэнцыяй. Тунэль гэты мае даўжыні 18 з паловай клм. Кошт будовы яго, у часе якой страцілі жыцьцё 65 работнікаў, выносіць 770 мільёнаў ліраў.

# Наша пошта.

П. Стэпулёнку. Грошы атрымалі, „Шлях Моладзі“ высылаем акуратна, дамагайцеся на пошце.

М. Дурэйку. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем, зьмесьцім у наступнум нумары.

В. Скрэбцу. Вершы Вашы да друку не падходзяць, пішэце лепш прозай. Карэспандэнцыю зьмесьцім.

В. Пабульцу. Адрас зьмяняем, верш Ваш да друку не падходзіць, пішыце прозай.

Мілевічу. Песьні атрымалі, дзякуем, будзем пакрысе друкаваць.

С. Г. Вельмі добра, што Вы не спалохаліся даносаў і сваю працу вядзеце далей, так і трэба. Пішыце, што ў Вас чуваць, як жыве ваша моладзь.

В. Янкоўскаму. „Шлях Моладзі“ высылаем і чакаем падпіскі. „Сьвітаньне“ ня выходзіць.

Громаў. Вершы, каторыя Вы прыслалі раней, да друку не падходзяць, гэтыя-ж, каторыя атрымалі нядаўна, разгледзім, як падойдуць, дык будзем друкаваць.

Я. Ярмалковічу. З матэр'ялаў скарыстаем у наступных нумарох.

Непакорнаму. Як бачыце, карэспандэнцыю зьмясьцілі, вершы да друку не падходзяць, пішыце лепш прозай з жыцьця вашае ваколіцы.

Пушкіну. Верш Ваш зусім слабы і да друку не падходзіць.

Зорцы. Ваш верш да друку не падходзіць, карэспандэнцыю зьмяшчаем, што да народных песень і басьняў, дык вельмі добра будзе, калі Вы будзеце запісваць і прысылаць нам да друку, чакаем.

Міколцы-Круцёлцы. Вершы Вашы слабыя і да друку не падходзяць, калі будзеце далей пісаць, то лепш апрацоўвайце іх.

Шмыту. Вершы, каторыя Вы прыслалі, да друку не падходзяць, слабыя, а больш якія маеце, прысылайце, як будуць падходзіць да друку, дык будзем зьмяшчаць.

Гэлі Беларусцы. Дзякуем і просім не забываць.

Юнаку. Дзякуем, карэспандэнцыю зьмесьцім у наступным нумары, просім пісаць і на далей.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

Уладыславу Бяздольнаму. Прыкра, што ня можам зьмясьціць Ваш верш, з прычыны ягонай слабасьці. Просім не забываць нас на далей. Напішыце што-небудзь з тамашняга жыцьця беларускай моладзі, з прыемнасьцю зьмесьцім. Можа Вы маглі-б там стварыць прадстаўніцтва нашае часопісі, было-б вельмі добра.

Леаніду з пад Вішнева. Вершы Вашы добрыя і як бачыце адзін, хоць папраўіўшы, зьмяшчаем, другі-ж „За што ланцугамі спавіта“ ня можна зьмясьціць, з прычын цэнзуральных. Душой-жа мы з Вамі.

Кандыдату на афіцэра. Вашы ўвагі вельмі слушныя, мы нават маем на думцы так зрабіць, як Вы радзіце.

Маладому. Апошнія вершы слабыя, чытайце больш беларускай літэратуры.

На просьбу „Шлях Моладзі“ высылаем: Я. Ключміку, Ю. Сергіевічу, К. Гунько, Лідзе Буднік, Радкевічу Я., Багдановічу Н., Лістапацкаму, Я. Гіньку, Я. Парафяновічу, Андрэявічу Т., Ул. Локотку, В. Чаплінскаму, Шпоніку Міх. Чакаем абяцанае падпіскі.

Атрымалі як падпіску на „Шлях Моладзі“ ад: Кс. В. Шутовіча 8 зл., Я. Гапановіча 4 зл., Тарасэвіча 3 зл., Цікоты М., Я. Гінько, К. М., Федаровіча, Альхімовіча па 2 зл.; Добрыяна Самсона, Стэпулёнка П. па 1 зл. 50 гр.; Савэрца В. 1 зл., Парпеновіча 50 гр. Усім шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі“ высылаем.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# Беларусы!

Гэтым Беларускі Нацыянальны Камітэт паведамляе, што ў аўторак 25 сакавіка з прычыны

**12-х Угодкаў**

**Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі,**

за прыкладам мінулых гадоў у гэты Вялікі Дзень Беларускага Народнага Сьвята ладзіць у Вільні ўрачыстае сьвяткаваньне з наступнай праграмай:

У аўторак 25 с. г.:

1. а гадз. 10 раніцы ўрачыстае набажэнства ў касьцеле сьв. Мікалая (завул. сьв. Мікалая 8);
2. а гадз. 11 дня ўрачысты малебен у Пятніцкай царкве (Вялікая вул.);
3. а гадз. 18 урачыстая акадэмія і канцэрт у салі Гандлёва-Прамысловага Клюбу (вул. Міцкевіча 33А).

Гэтае паведамленьне Бел. Нац. К-т просіць уважаць за запросіны.

Уваход на акадэмію і канцэрт вольны (бясплатны).

**Урад Бел. Нац. К ту.**